// Мастоўскі Веснік

Не народ для ўлады,
а ўлада для народа.

Незалежнае выданне №6(68) 25 травеня 2001г.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

### Мэбля падвяла

З 14 травеня на тры месяцы спынена праца ў мэблевым цэху ААТ "Мастоўдрэў". Паколькі прадукцыя гэтага прадпрыемства не адпавядае сучасным стандартам, а таму не мае попыту, то адпаведна не прыносіць прыбытку. Гутарка аб спыненні вытворчасці вялася на працягу года. 400 работнікаў не звопены, але большасць з іх адміністрацыя прымусіла напісаць заявы на адпачынак па ўласнаму жаданню, хоць яны мелі магчымасць пайсці ў чарговы адпачынак. Нязначная колькасць работнікаў будзе працаўладкавана ў іншых цэхах прадпрыемства, хоць і іх справы ідуць дрэнна. Цэх гнутаклееных дэталей мае частыя прастоі. А ўвогуле, як сведчаць некаторыя вядучыя спецыялісты прадпрыемства, у дадзеных эканамічных умовах і пры гэтым кіраўніцтве нельга казаць ні пра якую рэнтабельнасць вытворчасці. А яшчэ, паколькі рабочыя не прад'яўляюць сваіх законных патрабаванняў, то і надалей тут стан спраў будзе паляпшацца.

Язэп ПАЛУБЯТКА

### Інспектары--браканьеры
#### або хто прымусіў іх займацца гэтым?

2 траўня супрацоўнікамі Мастоўскага РАУС ля вёскі Галубы быў затрыманы выконваючы абавязкі кіраўніка Мастоўскай міжраённай інспекцыіі рыбаховы Алег Серада разам з егерамі Мялешкам і Іванчыкам. Пры аглядзе іх аўтамашыны было выяўлена 216 кілаграмаў свежай рыбы. Паколькі зараз ідзе нераст і рыбная лоўля забаронена, то тавар быў канфіскаваны і здадзены ў краму, а супраць браканьераў узбуджана крымінальная справа па факту злоўжывання службовым становішчам і нанясенні шкоды ў асабліва вялікіх памерах. Браканьерам давядзецца сплаціць штраф болей як паўтара мільёна рублёў, паколькі у багажніку машыны было 269 рыбін. А за адну рыбіну, злоўленую незаконна, належыць выплаціць штраф у памеры аднаго мінімальнага заробку, які зараз складае 5700 рублёў. Вось толькі адно пытанне:ці дойдзе справа да суда?

А.С.

**Даследаванне "МВ":** Згодна з словамі многіх сведкаў тае падзеі, дзеянні адбываліся прыкладна так. У другой палове дня 1 травеня Серада разам са сваімі памочнікамі па браканьерству завітаў на адзін з вадаёмаў ля в. Галубы. Спалохаў мясцовых "аматараў" рыбнай лоўлі пад час нерасту, зняў іх сеткі, "прыхватызаваў" улоў ды закінуў сваю аснастку.Такое нахабства начальніка рыбаховы пакрыўдзіла тутэйшых людзей. Яны патэлефанавалі ў міліцыю.Сераду і яго каманду затрымалі раніцай, калі яны закончылі браканьерства. Рыба была пералічана, узважана , а потым складзены пратакол. Вось тут і распачаўся вэрхал.Паколькі адзін з браканьераў быў адпушчаны, а рыба здавалася ў Правамастоўскую краму, ён паспеў пра падзею паведаміць сваім "патронам". Як засведчылі тры супрацоўнікі райвыканкама, наступныя два дні праца гэтае ўстановы была паралізавана. Пэўна, зацікаўленыя асобы: старшыня райвыканкама Кісялёў, начальнік РАУС Здановіч і кіраўнік паляўнічай гаспадаркі раёна Тумашчык у кабінеце раённага кіраўніка праводзілі свае патаемныя паседжанні.Таму нявядома ці адбудзецца суд. А калі і адбудзецца, то ці стане ён высвятляць: хто заказчык, а хто выканаўца?

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Не згодзен!

25(6 траўня) 1841г. у маёнтку Мількаўшчына, непадалёку ад Скідзеля, нарадзілася дзяўчынка, якую назвалі Элізай, будучая "каралева польскай прозы і пакутлівай праўды"(Францішак Багушэвіч), некаранаваная каралева Гродна.Творчая спадчына Э. Ажэшка – больш за 50 тамоў.Лепшая частка іх прысвечана беларускаму народу.Пісьменніца ў свае творы ўключае цэлыя пласты беларускай гутарковай мовы,- сакавітую народную беларускую лексіку, узоры вуснапаэтычнай творчасці. Яна сістэматычна збірае і запісвае фальклёрна-этнаграфічны матэрыял, штогод праводзячы летні адпачынак у беларускіх вёсках Мінявічы, Панямонне, Свіслач, Глядавічы, Лунна. Эліза Ажэшка запісвала ад мясцовых кабетаў песні, казкі, прымаўкі, замовы,уласцівасці лекавых зёлак (вядома на беларускай мове).Пры дапамозе лекаркі Люціі з Глядавіч Э. Ажэшка сабрала 228 назваў раслін — лекавых і прысушлівых, вядомых і маларапаўсюджаных, і ўсім беларускім назвам дала лацінскія адпаведнікі.Нельга ў кароткай заметцы апісаць ўсё, што зробіла пісьменніца для нашага краю. Але сказанага дастаткова, каб зразумець, што ёю абходжаны і абпісаны ўсе сцяжынкі нашага краю. І калі галоўны вертыкальшчык раёна кідае фразу: "Кто такая эта Элиза Ожэшка?

(працяг на стр.4)

# Хроніка рабочага руху

## Свабодны прафсаюз у «Самане плюс»

Канфлікт паміж рабочымі сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства "Самана-плюс" і адміністрацыяй працягваецца. Кіраўніцтва гэтае фірма вырашыла ўнесці ў калектыўную дамову пункт аб забароне рабочым у правядзенні забастовак на прадпрыемстве пры вырашэнні працоўных спрэчак. Людзі не пагадзіліся і дзеля таго, каб супольна абараняць свае правы, стварылі свабодны прафсаюз, у які ўвайшло амаль сорак чалавек. Узначаліў яго Валерый Ярэменчук. Гэтая арганізацыя зарэгістравана ў міністэрстве юстыцыі. Зараз генеральнаму дырэктару "Самана-плюс" Шуміку прадстаўлены новы тэкст калектыўнай дамовы.

## Свабодны прафсаюз дзейнічае

Толькі што створаны свабодны прафсаюз на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве "Самана плюс" прынёс клопат сваёй адміністрацыі. Па яго звароту ў мясцовую пракуратуру ды Гродзенскае абласное ўпраўленне па інспекцыі працы пры Міністэрстве працы РБ была праведзена праверка, якая выявіла шэраг недахопаў у арганізацыі працы ды прадпісала генеральнаму дырэктару Аляксандру Шуміку забяспечыць рабочых індывідуальнымі сродкамі абароны і выплачваць заработную плату два разы на месяц, як таго патрабуе Працоўны кодэкс. Акрамя гэтага, генеральны дырэктар вымушаны будзе збудаваць рабочым новы туалет. За парушэнне працоўнага заканадаўства з наймальніка быў спагнаны грашовы штраф.

## Свабодны прафсаюз адстрэльваюць

Стварэнне "Свабоднага прафсаюза" на сумесным беларуска-германскім прадпрыемстве "Самана плюс" выклікала шаленства ў яго кіраўнікоў і мясцовай вертыкалі. Генеральны дырэктар "Самана плюс" Аляксандр Шумік і яго наменікі робяць выгляд, што ў іх не існуе такой арганізацыі, якая зарэгістравана ў Мінюсце, і праект калектыўнай дамовы яны не хочуць разглядаць. Мастоўскі райвыканкам не ставіць яе на ўлік, нягледзячы на тое, што ўсе дакументы афармлены юрыдычна правільна. Паколькі прафсаюз працягвае сваю дзейнасць, адміністрацыя прадпрыемства пачынае пагражаць яго сябрам фізічнай расправай. Дырэктар вытворчасці Генадзь Сядач, спадзяючыся, што ён размаўляе адзін на адзін з слесарам Сяргеем Нарынкевічам, сказаў наступнае: "Хутка мы вас будзем па аднаму адстрэльваць". Паколькі тое чулі іншыя людзі, то быў складзены адпаведны дакумент, які накіраваны кіруючым органам "Свабоднага прафсаюза". Зараз разглядаецца пытанне перадачы скаргі ў пракуратуру.

"Свабодны прафсаюз" баяцца

І таму парушаючы законы ў Мастоўскім райвыканкаме не ставяць на ўлік.

Паколькі генеральны дырэктар Аляксандр Шумік адмовіўся прадставіць плошчу для працы гэтай арганізацыі, яны ўзялі ў арэнду прыватнае памяшканне.Такім чынам займелі свой юрыдычны адрас. Мінюст у тым не знайшоў ніякіх парушэнняў і зарэгістраваў яе. Намеснік старшыні райвыканкама Таісія Мурына, відаць, больш дакладна ведае законы, чым цэлае міністэрства юстыцыі, і адмовіла ў пастаноўцы на ўлік "Свабоднага прафсаюза" з тае нагоды, што юрыдычны адрас не адпавядае закону. Кіраўніцтва гэтае арганізацыі не разгубілася і здабыла новы юрыдычны адрас. Цікава, якія аргументы зараз вылучыць намеснік старшыні райвыканкама, каб не паставіць на ўлік арганізацыю? Яна , пэўна, жадае за вольнае тлумачэнне законаў атрымаць позву ў суд і сплаціць з уласнае кішэні штраф за свае супрацьпраўныя дзеянні.

# ПАЛІТЫК З РЭГІЁНА

Лідар аб'яднання "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш разглядаецца як адзін з найбольш верагодных кандыдатаў ад дэмакратычных сіл на прадстаячых у будучым годзе прэзідэнцкіх выбарах. Фармальна ён адказвае ўсім вылучаным Каардынацыйнай радай дэмакратычных сіл крэтэрыям: мае нулявы адмоўны рэйтынг, беспартыйны, дэмакрат.

## Кароткая біяграфіная даведка

Домаш Сямён Мікалаевіч нарадзіўся 2 студзеня 1950 года ў вёсцы Тумашы Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум і Беларускі інстытут народнай гаспадаркі. З 1969 г. працаваў механікам, галоўным інжынерам і дырэктарам Астравецкай аўтабазы №4, з 1977 г.—дырэктар Гродзенскага аўтакамбінату №1. З 1982 года—на партыйнай і савецкай рабоце: узначальваў Лідскі гарвыканкам і гарадскі Савет, затым Гродзенскі гарвыканкам і гарадскі Савет. У 1993 годзе стаў старшынёй Гродзенскага аблвыканкама і аблсавета. Са снежня 1994 года да мая 1996 г. старшыня Гродзенскага аблсавета. Дэпутат Вярхоўнага Савета XII і XIII скліканняў. 3 мая 1996 года член Прэзідыума Вярхоўнага Савета. У Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сіл прадстаўляе Гродзенскую вобласць. Прыкладам для сябе ў палітыцы лічыць Вітаўта Вялікага, які прывабіў яго "стварэннем моцнай беларускай дзяржавы, з якой лічылася уся Еўропа" і Рональда Рэйгана, бо Рональд Рэйган—гэта ўменне выклікаць у сваім народзе пачуццё гонару й годнасці, гэта змякчэнне супроцьстаяння ў свеце і стварэння ўмоў для пад'ёму эканомікі ў сваёй дзяржаве".Кандыдат у майстры спорту па боксу. Жанаты, мае два сыны.

# Лукашэнка падзяліў нашыя грошы

Бюджэт па расходам на 2001 год вызначаны ў суме 3.471.000.788 тыс. руб. Іх дзяржава ўзяла ў выглядзе падаткаў і адлічэнняў з прыбыткаў працоўных калектываў, дзе мы працуем.

Выдаткі бюджэта па некаторым артыкулам:

1. На сілавыя ведамствы 444.593.030 тыс. руб.

З іх:

а) войска 152.213.855 тыс. руб.

б) міліцыя і КДБ 280.590.758 тыс. руб.

в) суды і пракуратура 13.734.417 тыс. руб.

2. На прамысловасць, энергетыку і жыллёвы комплекс 35.416.600 тыс. руб.

3. На жыллёва-камунальную гаспадарку 900.988 т. р.

4. У бюджэт саюза з Расіяй 38.294.000 тыс. руб. ( у сорак разоў болей чым на ўсе жыллёва-камунальныя гаспадаркі краіны)

5. Упраўленне справамі прэзідэнта 42.489.604 тыс. руб.

6. На БПСМ (лукашэнкаўскі камсамол)1.535.686 т. р.

7. Беларускаму таварыству інвалідаў 114.958 тыс. руб.

8. Нацыянальнай Акадэміі Навук 3.687. 760 тыс. руб.

9. Культуры, мастацтву,кінематаграфіі 20.363. 459 т. р.

На пачатак снежня 2000 г.—1 дал.= 1150 бел. руб.

аповесць

Язэп Палубятка

## ПРАВІЛЬНАЕ РАШЭННЕ, ТАВАРЫШ ПРЭЗІДЭНТ

(Працяг.Пачатак №18 за 2000г.)

Пэўна,я спаў. Не! Прайшло толькі дзве хвіліны. Можа паклікаць каго-небудзь?Ні ў якім разе! Пабачаць, што пена на губах,і пойдзе пагалоска. І так плявузгаюць абы што. Імпатэнт, блакітны, гомік...Аб чым гэта я думаў. Як Білу ў морду заехаць... Дык болей няма каму. Сваю апазіцыю даўно па аднаму перадушыў.

Мусіць, не.Аб іншым думаў.

Тады пра Толіка Махнача.

Кожны сукін сын ведае, што грошы маюць прыцягальную моц. Аб тым я дзяўбу Махначу.Першы прэзідэнт не павінен думаць пра грошы. Яны ў яго павінны быць заўжды. А ў рэшце рэшт навошта першаму адзінагалоснаабранаму прэзідэнту грошы. Я гаспадар у сваёй хазе.. .хаце і павінен мець усё, што пажадаю. Дзейнічай, артыст!

Увогуле, у нас "артыстаў" хапае. Вось апошні выпадак. Адзін надта "разумны" пастух дадумаўся даць мянушку быку "Таварыш першы прэзідэнт". Свой жа, хамут калгасны, вечна ў гноі па калені, а што ўдумаў? Канешне, скаціну дурную калом прывучыў да гэтых слоў, да свайго голасу. Падла рабіў так. Напіваўся да ўсюські. Заходзіў у валоўнік ды пачынаў раўсці на ўсю моц:"Таварыш першы прэзідэнт". Пута калгаснае! Каб хоць вышэйшую адукацыю меў, то засадзіць можна было б. Я ўсіх такіх разумнікаў ужо перасадзіў. Жывёліна — дурная істота, безмозглая. А вось гэты цыркач здолеў выдрэсіраваць яго. Пры словах "таварыш першы прэзідэнт" скаціна пачынала раўсці наўсцяж ды драць нагамі зямлю. Тады гэты казёл склікаў усіх, хто быў побач і пацяшаўся. Рагатаў як скажэнны. Скажэнны — цыганскае слова. Тое я ведаю дакладна. Што мой электарат г... таксама усе ведаюць. Праўда, знайшлася адна сумленная даярка, пэўна, горача яшчэ кахае першага прэзідэнта і напісала яму ліст пра гэтыя штукарствы. Канешне, не на чыста расейскай мове. Сапраўды, і першы прэзідэнт яе прыстойна не ведае. А на які ляд мне яе ведаць. Я не Вася Пушкін, каб блядзям вершыкі грайзмоліць. Дачакаюцца яны ў мяне.

Служба аховы спланавала аперацыю як трэба. Яе асабіста ўзначальваў Жорык Крывалапы. Узялі "артыста" з быком разам. І прывезлі ў... мой прэзідэнскі кароўнік. Бык, я вам скажу, не нашага калгаснага заводу, а як у тых капіталістаў, тону вагою, галанскі, мусіць. Папрасіў я пастушка Пецьку загадаць быку мне на пацеху зараўсці: таварыш прэзідэнт. Напачатку ўпарціўся, казаў, што ён дурань, цёмны вясковы чалавек, не ведае, што ад яго "яснавяльможны пан хоча". Ах ты, к.., збыткавацьз мяне будзеш!» Як улізалі хлопцы з маёй аховы гумы па плячах, дык адразу паразумнеў.

У загарадцы пакінулі Пецьку адзін на адзін з быком. Яго прывязалі, а быка не. Во была ўсім нам пацеха. Шкада, вельмі шкада! І так у сельскай гаспадарцы маёй краіны рабочых рук не хапае. Бык—дурная істота, гэтага не разумее. Адразу ўзняў пацешнага хлапца на рогі. Загінуў ні пра што чалавек. А яму бы жыць ды жыць, кароў пасвіць, дзяцей гадаваць, даярак у жолабах цiскаць. Нішто хлопец быў, хоць і гноем ад яго смярдзела. Як у свой час ад мяне, калі прэзідэнтам у калгасе быў. Не. Не пердзізентам, а старшынёй. А яшчэ як бык узняў яго на рогі, дык гной з абодвых адтулінаў пайшоў: як з горла, так і з азадку.

Гэта яшчэ не ўсё. Тут яшчэ адзін казёл, які тады галасаваў за мяне, ксіву шле. (Не, не думайце, я яшчэ зэк, што так кажу.) Як пачытаеш, дзіву даешся, што ён там піша. Нават садысты і нацыяналісты да такога не маглі дадумацца. І гэта мой электарат. "Калі прыйдзе справядлівая ўлада, то мы не станем цябе катаваць і садзіць у каталажку, а пашлем у твой калгас паляводам, прыставім да цябе двух міліцыянтаў. Ты будзеш палоць буракі, выкідваць з фермы гной, мець з таго заробак, карміць сваю сям"ю, утрымліваць каханку ды міліцыянтаў. Тады ты зразумееш, як мы жывем зараз..."

Ды што я ўсё пра быкоў ды пастухоў, нейкіх казлоў, што галасавалі за мяне калісьці. Здаліся яны мне. Яшчэ бык мне будзе нейкі пярэчыць ці тое быдла, што завуць электаратам. Я вам усім пакажу, хто ёсць першы прэзідэнт.

Сабраў я першы раз сваіх халуёў..,ну, прыхільнікаў. А яны мне давай мазгі пудрыць, парады даваць. Асабліва Сцяпан Канцавы, адзін з адукаваных, вялікага спеца з сябе корчыць... Павучае, што і як належыць рабіць. Такіх трэба гнаць ад сябе дзеркачом мочаным. Слухаў я яго, слухаў, а потым і кажу:"Я прэзідэнт, а не ты, слова маё — закон." А тут Варапай падхопліваецца з свайго месца і крычыць: "Правільнае рашэнне, таварыш прэзідэнт!" Усе прысутныя крыва ўсміхнуліся, а мне спадабалася.

(працяг будзе)

## Дзеткі: чытайце ..."Советскую Белоруссию"

У школы горада і раёна паступіў загад з аддзела адукацыі аб правядзенні раз на тыдзень у кожным класе паўгадзіннай паліт-інфармацыі накшталт тых, што праводзяць лектарскія групы райвыканкама ў працоўных калектывах. Такія мерапрыемствы распачаліся напрыканцы красавіка. Напрыклада, вучням з аднаго класаў СШ №5 г. Масты настойліва рэкамендавала штодзённа чытаць газету "Советская Белоруссия" і глядзець па беларускаму тэлебачанню вячэрні выпуск "Панарамы".

Кожны раз дырэктары школ павінны перадаваць у аддзел адукацыі тэму палітінфармацыі.

**Улас. інф.**

## Дзяржаўную сімволіку у кожны кабінет

Яшчэ адно дзіўнае распараджэнне атрымалі дырэктары школаў Мастоўшчыны. У кожным класе і кабінеце павінна вісець дзяржаўная сімволіка. Каб купіць тыя атрыбуты дзяржаўнасці, раённы аддзел адукацыі не мае сродкаў, таму некаторыя дырэктары школаў прапанавалі класным кіраўнікам самым шукаць для гэтага сродкі. Дасціпныя настаўнікі гэтае новаўвядзенне дапоўнілі словамі: такую сімволіку, як ў кожны кабінет так і т...

**Антон МАКЕЙ**

(Працяг. Пачатак на стр.1.)

# НЕ ЗГОДЗЕН!

Писала на польском языке…", то бярэ атароп і сорам за дэманстрацыю такога невуцтва.З 1831 г. была забаронена расейскімі акупантамі не толька беларуская мова, але і назва Беларусь.Быў"Северо-Западный край" і дазволена польская мова(у мэтах пасеяць варожасць). Адзіным сродкам існавання для Э.Ажэшка быў літаратурны заробак, бо яе маёнтак спачатку быў зруйнаваны расейскімі салдатамі, а потым канфіскаваны.Тры браты, у тым ліку паралізаваны Браніслаў, сасланы ў Сібір. Вядома, на мове акупантаў Ажэшка пісаць не магла. Пісаць на забароненай беларускай мове – гэта зарабіць катаргу.Вось і пісала на польскай мове.Цяпер беларуская мова пакуль што не забаронена.Але вертыкальшчыкі чамусці " говорят по-рюскі".Якога народу яны кіраўнікі?Чаму канфіскавана маёмасць Э. Ажэшкі?Бо яна актыўны ўдзельнік паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага.Яна з'яўлялася сувязной вайсковага кіраўніка паўстання Рамуальда Траўгута,дапамагала паўстанцам харчаваннем, медыкаментамі арганізавала выпечку хлеба і мыццё бялізны.Пасля задушэння паўстання Э.Ажэшка хавае Р. Траўгута у садзе маёнтку, а пасля апошняй бітвы ў Горацкіх лясах, рызыкуючы жыццём, вывозіць паранёнага Р. Траўгута ў сваёй карэце з"Северо-Западного края", залітага крывёй паўстанцаў, да межаў Каралеўства Польскага, дзе ён спадзяваўся ўзнавіць барацьбу. Але яго чакала шыбеніца ў Варшаўскай цытадэлі і ... помнік у Свіслачы. Паўстанне патоплена ў крыві, сотні павешаных, тысячы сасланых у Сібір.Апошняй кнігай Э. Ажэшка была "Cloria victis" – "Слова пераможаным»,прысвечаная паўстанцам 1863.Над гэтай кнігай у Расеі быў арганізаваны суд, каб адпомсціць пісьменніцы нават пасля яе смерці. Ці не ў гэтым разгадка таго вэрхалу , які паднялі ў сувязі з тым, што жыхары в.Лунна вырашылі ўвекавечыць памяць Элізы Ажэшка, назваўшы яе іменем вуліцу, якая памятае яе крокі.Гэта былая Паштовая і, будзем мець надзею, былая Камсамольская. Падрыхтоўка да змены назваў вялася загаддзя, адкрыта.Збіраліся гістарычныя матэрыялы, подпісы жыхароў і вяліся гутаркі з імі.Згодна з заканадаўствам аднагалосна дэпутаты Луненскага сельскага Савета прынялі рашэнне: назваць былую вуліцу Камсамольскую вуліцай імя Элізы Ажэшка.І тут ў ролі правакатара выступіў М.Сямак.У папярэдніх размовах з дэпутатам С.Сільвановічам, ён поўнасцю згаджаўся з прапанованай адноснага перайменавання вуліцы. Дачакаўшыся рашэння дэпутатаў, М.Сямак раптам "успомніў", што назва вуліцы звязана з Скідзельскімі камсамольцамі,але сам не меў ніякіх дакументальнага доказаў.Як у такім выпадку вырашаюць пытанне цывілізаваныя людзі? Трэба было прыйсці да дэпутатаў і ў размове з імі вырашыць недаразуменне, калі яно было.Але не гэта было патрэбна.Камуністы ніколі не вырашаюць праблемы мірным шляхам.Няма такіх прыкладаў у гісторыі.Трэба было распаліць варожасць сярод многанацыянальнага насельніцтва Лунна.Знайшоўшы мясцовага "Азаронка", супрацьстаянне пачалі раздзьмухваць праз камуністычную прэсу, развешваць лістоўкі па вёсцы,уцягваць падманам у сваю брудную справу заслужаных ветэранаў.Здзіўляе безадказнасць рэдакцыі газеты "Зара над Нёманам", якая хуценька па прыкладу камністычных выданняў друкуе неправераныя і недаказаныя факты. Канфлікт падхапіла вертыкаль.Па іх рашэнні 27 красавіка ў в.Лунна адбыўся сход, на які запрошаны жыхары вуліцы, Прыйшлі не толькі жыхары ,але і ўсе зацікаўленыя ў тым, каб перашкодзіць распальванню варожасці ў вёсцы.Чамусці не было ні ветэранаў, ні аўтара публікацыі і лістовак, ні карэспандэнта газеты "Зара над Нёманам".Яны ўжо сваю справу зрабілі.А цяпер прашу ўвагі :ніводзін жыхар былой вул. Камсамольскай, пражыўшы на ёй 30-40 год, не ведаў, што яна названа ў гонар Скідзельскіх камсамольцаў!Ні хто,акрамя М.Семака.Цвёрда трымаў свой сакрэт Сямак да адпаведнага часу. Жыхары Лунна аносяцца з аднолькавай павагай і ўшанаваннем як да Скідзельскіх камсамольцаў, якія змагаліся з фашыстамі , так і да паўстанцаў 1863, якія змагаліся з расейскімі акупантамі. Таму даручана ўтворанай на сходзе камісіі перэлапаціць усе архівы і іншыя магчымыя крыніцы і, калі толькі хоць ня значна дакументальна будзе пацверджана сувязь назвы вуліцы са Скідзельскімі камсамольцамі, у Сельскі савет будзе пададзена заява аб адозве подпісаў жыхароў і галасоў дэпутатаў.Калі такіх дакументаў не будзе, то рашэнне застанецца ў сіле.І няхай на сумленні "Зары над Нёманам" застанецца ўчынак па распальванні варожасці сярод жыхароў Лунна.У такім выпадку ўшанаваць Скідзельскіх герояў можна тым жа законным шляхам, як гэта зрабілі з ушанаваннем Э. Ажэшкі. Вуліц у Лунна хапае.І назва павінна быць канкрэтнай: вул. Скідзельскіх камсамольцаў, каб гэта не было сакрэтам аднаго М.Семака. Ды і камсамольцы былі розныя. Былі і такія, хто развальваў цэрквы і касцёлы, страляў у патыліцы пісьменнікам, рабочым і сялянам, так званым "ворагам народа", забіваў дзяцей, жанчын і старцаў у Аўганістане( усяго 1 млн. чалавек).Называць вуліцу ў гонар такіх камсамольцаў, гэта здзек над памяццю ахвяр камуністычнага генацыду.

**Лявон Карповіч**

Пакуль матэрыял рыхтаваўся да друку, падзеі ў Лунна развіваліся далей.Старшыня мастоўскага райвыканкама А. Кісялёў патэлефанаваў старшыні Луненскага выканкама і забараніў рабіць якія-небудзь апытанні, вярнуць вуліцы назву Камсамольская. Закон тут ні пры чым. Па палудні таго дня сабралася, ўтвораная з жыхароў камісія для апытання насельніцтва. Але М. Семак падаў спіс з подпісамі жыхароў в. Лунна, якія не згадзіліся з заменай назвы вул. Камсамольскай на вул. імя Э. Ажэшка. Хто ж збіраў гэтыя подпіы, абыйшоўшы камісію? Усё той жа А. Пудаўкін. У кожнай хаце ён ашукваў людзей, што вуліца названа іменна ў гонар скідзельскіх камсамольцаў, аб чым нарэшце праз 60 гадоў пасля вайны яны даведаліся.У сувезі з гэтым мясцовыя суполкі БНФ, ТБМ, і СПБ звярнуліся ў сельсавет з просьбай адазваць галасы дэпутатаў. Камсамольскую вулуцу назваць вуліцай Скідзельскіх камсамольцаў.Надаць імя Э. Ажэшка Луненскай бібліятэцы, арганізаваць у ёй залу, прысвечаную пісьменніцы, вывесіць мемарыяльную дошку. "Камунізм перамог на асобна ўзятай вуліцы",—як сказаў класік.

Заснавальнік і рэдактар Язэп Палубятка

Адрас для допісаў: 231600 г. Масты-2 да запатрабавання Палубятка І.І. тэл. 2-16-90

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі

Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4

Дабрачынна надрукавана Гродзенскім абласным грамадскім аб"яднаннем "Ратуша" пры падтрымцы фонда "Альянс Каўнтэрпарт", Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).